

№ 27 (44)

Ліпень 2004 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:





### Мусім давесці да ведама грамадскасці

Беларускі фонд культуры двойчы звяртаўся да адміністрацыі г. Смаленска з прапановаю аб устанаўленні мемарыяльнай дошкі Максіму Іванавічу Гарэцкаму, які працяглы час жыў і працаваў у Смаленску і вобласці. Аб тым і былі нашы лісты. Апошні мы прапануем вашай увазе, як і адказ намесніка галавы г. Смаленска А. І. Лагутава.

*(Заканчэнне на стар. 2)*

### Да сяброў «Краязнаўчай газеты»

***Прыемна адзначыць, што па выніках падпіскі на III квартал гэтага года Вас значна пабольшала – асабліва з Мінскай, Гомельскай, Гродзенскай абласцей і г. Мінска.***

**Цікавасць да нашага выдання, да глыбейшага ведання сваёй гісторыі і культуры, мяркуючы па падпісчыках, назіраецца і ў Брэсцкай, Магілёўскай абласцях. За гэта мы вам, сябры, удзячныя і выказваем сваю павагу.**

**А вось з Віцебскай вобласці сяброў у нас паменшала, хоць матэрыялаў з яе апублікавана на старонках газеты даволі шмат. Калі гаварыць пра раёны, то нас найбольш падтрымліваюць у Ляхавіцкім, Жлобінскім і Мазырскім, Слонімскім і Воранаўскім, Стаўбцоўскім і Любанскім, а вось у Баранавіцкім, Жабінкаўскім, Зэльвінскім, Гарадоцкім, Пастаўскім, Талачынскім, Веткаўскім, Нараўлянскім і Петрыкаўскім, на жаль, пра нас ці не ведаюць яшчэ, ці нам не зусім давяраюць. Зразумела, гэта нас засмучае, бо мы разам з аўтарамі прыкладаем шмат намаганняў для пашырэння краязнаўчай работы.**

**Радасна, што сярод падпісчыкаў шмат тых, хто працуе ў сістэме культуры: мы спаўняем разам адну святую справу. Нямала мы шукаем сцяжын, друкуем самых розных матэрыялаў для ўсіх устаноў адукацыі, ды многія ўсё яшчэ вырашаюць: стаць нашымі чытачамі ці адкласці гэта на пазней. Паверце, вы пашкадуеце, што не далучыліся ў II паўгоддзі да сяброўства газеты – шматлікае цікавае, карыснае і патрэбнае пройдзе міма хадзь вас.**

***Пашырым наша сяброўства на карысць любімай нашай Радзімы!***

## Якіх славутых людзей дала свету Беларусь?

Беларуская зямля нарадзіла шмат выдатных дзеячаў, якія праславіліся далёка за яе межамі. Гэта Казімір Семяновіч, вынаходнік шматступеневай ракеты, і Якуб Наркевіч-Ёдка, адкрывальнік электраграфіі і бяздротавай перадачы электрычных сігналаў; Ігнат Дамейка, народны герой Чылі, даследчык яе прыродных багаццяў, заснавальнік універсітэта ў Сант'яга, і Герман Мінкоўскі, выдатны нямецкі матэматык і фізік; Аляксандр Кавалеўскі, які даказаў эвалюцыйнае адзінства хрыбетных і бесхрыбетных жывёлаў, бліскуча пацвердзіўшы гэтым тэорыю Чарльза Дарвіна, і ягоны брат Уладзімір Кавалеўскі, заснавальнік эвалюцыйнай палеанталогіі; Бенядзікт Дыбоўскі, які ўпершыню апісаў жывёльны свет Байкала, Амура, Камчаткі, і Ян Чэрскі, геолаг, даследчык Усходняй Сібіры, імем якога названая горная сістэма («хрыбет Чэрскага»); Тадэвуш Касцюшка, нацыянальны герой Злучаных Штатаў Амерыкі, змагар за іх незалежнасць, і Жыгімонт (Зыгмунт) Мінейка, нацыянальны герой Грэцыі, удзельнік барацьбы супраць турэцкіх захопнікаў; Аляксандр Булатовіч, герой вайны Абісініі (Эфіопіі) з італійскімі каланізатарамі, і Мікалай Судзілоўскі, прэзідэнт сената Гавайскіх астравоў; Леў Арцімовіч, выдатны вучоны ў галіне кіравання тэрмаядзернага сінтэзу, і Аляксандр Чыжэўскі, заснавальнік геліябіялогіі і вынаходнік іанізатара, названага «люстрай Чыжэўскага»; Аляксандр Маліноўскі, які стварыў падмурак новай навукі – кібернетыкі, і Оскар Мілаш, французскі і летувіскі пісьменнік.

Беларусь дала свету выдатных паэтаў і празаікаў – Міколу Гусоўскага, Яна Вісліцкага, Адама Міцкевіча, Францішка Багушэвіча, Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Кузьму Чорнага; кампазітараў – Міхала Клеафаса Агінскага, Міхаіла Глінку, Станіслава Манюшку, Мікалая Рымскага-Корсакава, Змітра Шастаковіча, Ігара Стравінскага; спевакоў – Платона Цясевіча, Міхася Забэйду-Суміцкага, Пётру Конюха; мастакоў – Казіміра Малевіча, Вітольда Бялыніцкага-Бірулю, Язэпа Майсеенку, Рамана Семашкевіча, Уладзіслава Стрэмінскага, Георга Ніскага, Надзею Хадасевіч-Лежэ; асветнікаў і філасофаў – Еўфрасінню Полацкую, Кірылу Тураўскага, Кліма Смаляціча, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага; першадрукара Усходняй Еўропы Францішка Скарыну, першадрукароў у Расіі Пётру Мсціслаўца ды Івана Федаровіча (Фёдарава), якія распачаў таксама кнігадрукаванне ва Украіне, лонданскага першадрукара Яна Ліцьвіна.

Са старадаўніх беларускіх родаў паходзяць і такія вядомыя ўсяму свету людзі, як падарожнік Мікалай Перавальскі (Пржэвальскі), матэматык Соф'я Кавалеўская (Корвін-Крукоўская), паэт Гіём Апалінэр (Кастравіцкі), авіяканструктар Павел Сухі, пачынальнік лялечнай анімацыі (мультыплікацыі). Уладзіслаў Старэвіч. Беларуская паходжання таксама першая ў свеце жанчына-касманаўт Валянціна Церашкова, касманаўты Пётра Клімук і Уладзімір Кавалёнак.

*Адам МАЛЬДЗІС,*
*«Народная воля»*

# Гісторыя Кругляншчыны ў асобах

***У Круглянскай цэнтральнай бібліятэцы з'явілася цікавая навінка для краязнаўцаў. Тэкставая база даных «Кругляншчына: мінулае і сучаснае» папоўнілася новым раздзелам «Славутыя землякі і ўраджэнцы краю». Гэты раздзел прысвячаецца асобам, якія жылі і жывуць у краі і дзейнасць якіх звязана з раёнам.***

Цікавыя матэрыялы змешчаны пра гістарычных дзеячаў мінулага – К. Р. Дашкаву, М. Р. Чарняева, Р. М. Чарняева, І. У. Гурка, М. П. Данілава і інш.

Сярод сучасных мясцовых дзеячаў – прадстаўнікі мясцовай улады, лідэры партый, рухаў, аб'яднанняў і фондаў, дзеячы новых структур, прадстаўнікі вытворчасці, асветы, культуры (заслужаны работнік адукацыі Рэспублікі Беларусь У. А. Аляхновіч, начальнік МПМК-266 М. В. Патрончык, кавалер ордэна Леніна М. Т. Арыстава, кавалер ордэна Кастрычніцкай рэвалюцыі У. К. Верхаводкін і інш.).

Ёсць матэрыялы аб асобах, дзейнасць якіх у пэўны перыяд праходзіла на Кругляншчыне (А. А. Папкоў – былы старшыня Круглянскага райвыканкама, зараз першы намеснік галавы Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і інш.).

Уключаны ў базу даных звесткі аб выдатных ураджэнцах краю, якія звязаны з ім толькі фактам нараджэння (У. К. Андрыенка – вучоны мовазнавец, Я. Я. Кантылёў – кандыдат псіхалагічных навук, А. В. Красінскі – кіназнаўца і інш.).

Заўжды будуць захапляць нашчадкаў подзвігі змагароў за свабоду і шчасце простага народа Фёдара і Вавілы Ракушавых, І. І. Буевіча, П. А. Залуцкага і інш.

У гады фашысцкай акупацыі асаблівa праявілася непакорнасць і ўпартасць нашага народа. Ягоныя сыны змагаліся ў першых радах мсціўцаў, ахвяруючы сваімі жыццямі. Гэта Н. Л. Юшкоўскі, С. А. Лавянецкі, А. С. Лукашэвіч, якія змагаліся ў тыле ворага і на франтах Вялікай Айчыннай вайны.

Даведаецеся і пра нашых землякоў, якія трапілі ў канцэнтрацыйныя лагеры, былі рэпрэсіраваны, а таксама пра воінаў-інтэрнацыяналістаў.

Шырока прадстаўлена творчасць мясцовых паэтаў і пісьменнікаў: А. Р. Кобец-Філімонавай, В. І. Лужкоўскага, У. К. Цішурова, С. І. Варапаевай, В. І. Бяляцкага і інш.

Тут вы знойдзіце фотаздымкі знакамітых асоб. Пазнаёміцеся з работамі вялікага рускага мастака-перасоўніка М. В. Неўрава, які апошнія гады свайго жыцця правёў на Кругляншчыне. Змешчаны таксама работы ўраджэнцаў Кругляншчыны – мастака-дызайнера А. М. Пузырова, акадэміка Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва М. Р. Баразны, народных майстроў Т. В. Бяляевай, Л. Д. Харкевіча, Г. Л. Саланінка і інш. Убачыце мёдавую піраміду пчаляра А. А. Князева, якая дэманстравалася на ВДНГ у 1966 г., вагой звыш 50 кг з 11 асобных блокаў.

Звесткі аб асобах размешчаны ў алфавітным парадку. Акрамя таго, звесткі аб асобах групуюцца ў адпаведных раздзелах («Ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, Кастрычніцкай рэвалюцыі і іншых эпахальных: падзей», «Рэпрэсіраваныя ў гады культу асобы», «Літаратурнае жыццё», «Народная творчасць», «Асвета», «Друк» і інш.) таксама ў алфавітным парадку. Гэта дае магчымасць, не ведаючы прозвішча асоб, знайсці аб іх звесткі па роду дзейнасці.

Багата Круглянская зямля на герояў і таленавітых людзей. Пазнаёміўшыся з раздзелам «Славутыя землякі і ўраджэнцы краю» базы даных «Кругляншчына: мінулае і сучаснае», вы даведаецеся, хто ёсць хто ў нашым краі.

***М. ЗДЗІТАВЕЦКАЯ,***
*бібліёграф Круглянскай цэнтральнай бібліятэкі*

## «Старажытнымі» ўзорамі «Цэнтраліта» яшчэ ўпрыгожаць мост на Маскве-рацэ...

І будзе гэта мастацкае ліццё ў стылі XVIII – пачатку XIX стагоддзяў Гомельскага завода «Цэнтраліт». А ўпрыгожыць яно новы пешаходны мост праз Маскву-раку, што ўзводзіцца ў расійскай сталіцы непадалёку ад храма Хрыста Выратавальніка па праекце лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР Зураба Цэрэтэлі.

Як стала вядома ад намесніка начальніка аддзела маркетынгу прадпрыемства Святланы Трыпуцёнак, вялікі заказ на вырабе апор і секцый рашэцістай агароджы ад масквічоў паступіў на «Цэнтраліт» у канцы мая, а каля 180 тон мастацкага ліцця гамяльчане абавязаліся паставіць у Першапрастольную ў жніўні. Дзелавыя адносіны з расіянамі ўжо маюць сваю гісторыю. Так, раней заводам былі выраблены суцэльналітыя асвятляльныя апоры з дэкаратыўнымі элементамі, якія выкарыстаны пры рэканструкцыі Неўскага праспекта ў Санкт-Пецярбургу. Выконвалі гамяльчане заказ расіян і пры аснашчэнні Цэнтральнага стадыёна ў Маскве.

## Ветразі каля Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Сухога

Зрэшты, натуральна для суднаходнага на рацэ Сож горада Гомеля – бачыць парусныя лодкі. І ўсё ж нечым асабліва заваражвае шматкаляровая архітэктурная кампазіцыя з шасці парусных лодак, аўтарам якой з'яўляецца навучэнка 3-га курса Гомельскага мастацкага вучылішча Ніна Гуслянцава. Яе «акрыленыя» ў камені і бетоне твор атрымаў разуменне ў адміністрацыі Савецкага раёна абласнога цэнтра, галава якой Таццяна Філімончык прыняла асабісты ўдзел у цырымоніі адкрыцця «Ветразяў надзеі». Яна, у прыватнасці, выказала ўдзячнасць навучэнцам і студэнтам з устаноў адукацыі свайго раёна, якія сабралі на стварэнне кампазіцыі каля 6 мільёнаў рублёў.

## Парк для турыстаў

Тут на ўвазе мы маем новы Нацыянальны парк «Белая Русь», які раскінецца на тэрыторыі Лагойскага раёна і куды ўвойдуць землі мясцовага лясгаса, калгасаў «Плешчаніцкі», «Акцябрскі», калгаса імя Машэрава, «8 Сакавіка», а таксама мемарыяльнага музея «Хатынь» – усяго 25 000 га. Тут будуць развіваць экалагічны турызм, што дазволіць актывізаваць эканоміку, вырашаць праблему занятасці і росту даходаў мясцовага насельніцтва без шкоды для прыроднага асяроддзя і гісторыка-культурнай спадчыны.

***Сёлета спаўняецца 480 гадоў з таго часу, як каралева Бона афіцыйна пацвердзіла атрыманне Пятром Алешам ад пінскага і давыд-гарадоцкага князя Фёдара Яраслáвіча прывілею на маёнтак Беражное.***

# Смецце ў палацавых пакоях!..

На вялікі жаль, гэта дата ніякім чынам не адзначаецца. Лёс старога палаца, з якім звязана цікавая і багатая гісторыя палескага краю, сёння мала каго хвалюе. А зусім нядаўна, як расказалі мне мясцовыя жыхары, каля палаца жылі старыя мужчына і жанчына, пры якіх колішні маёнтак быў у больш-менш дагледжаным стане. Калі ж яны памерлі, палац апынуўся ў поўным запусценні: пабітыя вокны і дзверы, зараслыя пустазеллем ганкі, смецце ў раней шыкоўных пакоях. Сумна і крыўдна... Прыкра яшчэ і з таго, што ў гэткім жа стане знаходзіцца пераважная большасць старых маёнткаў па ўсёй Беларусі.



Новаберажноўскі палацава-паркавы ансамбль, што на Століншчыне, быў заснаваны родам Алешаў і належаў адной з пазнейшых яго ліній. Варта крыху расказаць пра некаторых прадстаўнікоў гэтага роду. Сын Аляксандра, празванага «Алешам» ці «Алешкам», Фёдар у 1482 годзе служыў сакратарам караля Казіміра Ягелончыка, а яго ўнук Пётр быў падстоліем мазырскім. У час бітвы войска ВКЛ з мазырскім ханам Пётр трапіў у палон. З пакалення ў пакаленне перадавалася паданне пра яго непахісны характар. Нават пад пагрозай смяротнага пакарання Пётр не схіліў галаву перад ханам і не змяніў хрысціянскай веры, цвёрда адказаўшы чужынцу: «Усе мы памром!». Сын Пятра, таксама Пётр, і атрымаў прывілей на маёнтак Беражное. З таго часу змянілася 12 пакаленняў гэтага роду, які атрымаў назву Алешы-Беражноўскія.

Апошнім 12-м спадкаемцам Беражнога, Церабяжова, Гарадзішча і шэрагу палацаў у Вільні, Рызе і Пінску быў Цэзарый Антоній Алеша (1820–1892), жанаты з Аляксандрай Орда. Служыў ён у царскай гвардыі, а перад нацыянальна-вызваленчым паўстаннем 1863 года выйшаў у адстаўку. І хаця непасрэднага ўдзелу ў паўстанні не прымаў, бо лічыў больш патрэбным актыўна займацца гаспадарчымі рэформамі ў сваіх маёнтках, дапамагаў паўстанцам выехаць за мяжу, уладкоўваў іх на працу, выратаваў шэраг маёнткаў ад канфіскацыі.

Цэзарый меў вялікую сям'ю: 5 дачок і 6 сыноў, якіх выхаваў у найлепшых традыцыях еўрапейскай культуры і адукацыі.

Беражное атрымаў малодшы сын Уладзіслаў. Ён меў адзінага сына Міхаіла, які пасля атрымання дыплома інжынера-лесавода, пайшоў у армію, ваяваў, быў захоплены ў палон і загінуў у канцлагеры Асвенцым. Род Алешаў-Беражноўскіх спыніў сваё існаванне на Чаславе Алешы, які памёр, не пакінуўшы нашчадкаў.

Вось толькі невялікія звесткі пра гісторыю Алешаў, а пазней і Алешаў-Беражноўскіх. Дарэчы, да прадстаўнікоў гэтага вялікага і знакамітага ў свой час роду навукоўцы адносяць і вядомага расійскага пісьменніка Юрыя Алешу.

Што тычыцца палаца, дык, як бачна на здымку, гэта мураваны, з чырвонай цэглы, двухпавярховы з чатырохсхільным дахам будынак, які ў плане мае форму выцягнутага прамавугольніка і нясе элементы неаготыкі. З правага боку захавалася вежа са стогападобным дахам.

Пасля таго, як маёнтак пакінулі прадстаўнікі роду Алешаў, будынак быў прыстасаваны пад кватэры для простых людзей, што не дало магчымасці захаваць колішнюю ўнутраную планіроўку палаца: на месцы шыкоўных пакояў і да сённяшняга часу захавалася вялікая колькасць маленькіх пакойчыкаў.

Побач з маёнткам, на плошчы 5 га, раней размяшчаўся пейзажны парк, закладзены ў 1890 годзе. Цяпер на яго месцы толькі грабавая алея.

Кажуць, калі пастаяць колькі хвілін пад гэтымі старымі дрэвамі і паслухаць іх пошум, то можна пачуць, як да Беражноўскага палаца пад'язджае прыгожая карэта... Але пакуль будзе смецце ў палацавых пакоях, такое наўрад ці магчыма.

***Ігар ГРЭЧКА,***
***студэнт БДПУ імя М. Танка***

***Фота аўтара***





# Упершыню ў археаграфічным штогодніку

***Чацвёрты выпуск «Беларускага археаграфічнага штогодніка» (М., 2003) змяшчае сярод іншых матэрыялы, якія маюць прамое дачыненне да тэмы беларускай культурнай спадчыны за мяжой. Коратка паспрабуем разгледзець іх.***

Артыкул Вольгі Зубко «Дакументы па гісторыі беларускага вызваленчага руху 1917–1930 гадоў у ЦДАВОУК Украіны» раcпавядае пра тыя архіўныя дакументы, што датычаць нацыянальнага руху 1917–1921 гадоў, а таксама яго эміграцыйнай фазы (1921–1941) і перахоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве вышэйшых органаў улады і кіраўніцтва Украіны ў Кіеве, які сабраў у сваіх сховішчах матэрыялы ўкраінскай гісторыі ХХ стагоддзя.

Фонды Украінскага замежнага архіва (так называлася «Пражская калекцыя») утрымліваюць звесткі пра беларусаў у Чэхіі.

Сярод дзвюх дакументальных публікацый у штогодніку першым трэба назваць артыкул Алеся Жлуткі «Кароль Міндоўг і яго дзяржава ў дакументах папскай курыі XIII стагоддзя». Знаходкі беларускага лацініста датычацца 1251–1268 гадоў і закранаюць тэму каранацыі Міндоўга, заснавання на нашых землях першага біскупства – падзей, што мелі велізарнае значэнне для міжнароднага статуса дзяржавы і яе далейшага лёсу. Атрымаўшы карону, Міндоўг увайшоў у цеснае кола еўрапейскай кіруючай эліты, набыў адпаведныя каралеўскія правы і прывілеі і звязаны з імі прэстыж. Усё гэта далучала Вялікае княства Літоўскае (ВКЛ) да Еўропы і ставіла яго на адзін узровень з іншымі хрысціянскімі дзяржавамі. У гэты час працягвалася закладка падмурка нашай дзяржаўнасці. Выяўленыя А. Жлуткам у Рыме лісты папы Інацэнта IV сведчаць аб тым, што выпраўленае неўзабаве пасля хросту пасольства да папы дало неблагі плён. Папа ўзяў сям'ю і землі Міндоўга пад свой пратэктарат. У лістах знаходзім звесткі пра тое, што князю ВКЛ было даручана клапаціцца, каб дзесяціна ў «Літовіі» бралася ў памяркоўных памерах. У адным з пасланняў Міндоўгу папа зацвердзіў яго валоданне землямі, якія той адваяваў і яшчэ адваюе ад «каралеўства Русі». Гаворка, мусіць, ідзе пра землі, адваяваныя ў Галіцка-Валынскага князя. З Рыма ішлі пасланні да біскупаў Прыбалтыкі, дзе ім даручалася дбаць пра тое, каб ніхто не супрацьдзейнічаў абароне, пад якую быў узяты Міндоўг.

Папа даручыў Кульмскаму біскупу каранаваць князя каралём Літвы. Каранацыя, як вядома, адбылася летам 1253 года ў Навагрудку. У лістах гаворыцца аб прызначэнні ў Літву біскупа Хрысціяна, які выводзіцца з-пад юрысдыкцыі арцыбіскупа Лівоніі і Прусіі і падпарадкоўваецца непасрэдна апостальскаму пасаду.

Потым «інструкцыі» выходзяць ужо ад новага папы – Аляксандра IV, які дазваляе Міндоўгу каранаваць сына Руклю. Цікава, што папскія дакументы не згадвалі пра адступленні ад хрысціянства, пра якія паведамлялі нямецкія і ўсходнеславянскія хронікі (цяпер гэта прызнаны факт у гістарычнай навуцы). Наадварот, там са шкадаваннем гаворыцца пра тое, што кароль, які прыклаў столькі намаганняў для хрысціянізацыі новай дзяржавы, быў забіты «сынамі здрады». Відаць, Міндоўг парваў толькі з Нямецкім ордэнам, а апошні выкарыстаў гэта, каб паказаць караля вераадступнікам. Цікавыя формы каралеўскага імя, што фігуруюць на старонках папскіх дакументаў: Міндаў, Міндовін, Міндота, даюць новы матэрыял для разважанняў аб яго «літоўскасці» ці «славянскасці».

Варта адзначыць, што ўсе матэрыялы ўпершыню друкуюцца не толькі ў арыгінале, але і ў беларускім перакладзе. Перахоўваюцца дакументы ў Ватыканскім тайным архіве, а таксама Тайным дзяржаўным архіве прускага культурнага здабытку ў Берліне, куды перамясціліся фонды колішняга Кёнігсбергскага архіва Нямецкага ордэна. Папскія лісты маюць вялікую навуковую каштоўнасць па сваёй аўтэнтычнасці і з'яўляюцца адной з нешматлікіх ацалелых крыніц, што асвятляюць найважнейшыя моманты палітычнай гісторыі дзяржавы Міндоўга.

Публікацыя Генадзя Кісялёва «Лісты Аляксандра Ельскага да Юзафа Ігнацыя Крашэўскага» рэпрэзентуе перапіску вядомага дзеяча беларускай культуры, пісьменніка, публіцыста, гісторыка, краязнаўца з польскім пісьменнікам, род якога, дарэчы, паходзіў з Беларусі. Аўтэнтыкі лістоў перазахоўваюцца ў Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве, а копіі дасланы ў выдавецтва «Беларускі кнігазбор» нашчадкам Ельскага, Анджэем Ельскім, які жыве ў Польшчы. У перыяд ліставання (1870–1883) Крашэўскі жыў у Дрэздэне, куды і ішла карэспандэнцыя Ельскага.

У лістах, што яшчэ не друкаваліся, знайшло адлюстраванне шырокае кола пытанняў: клопаты Ельскага, звязаныя з музеем у Замосці (апісваецца сёе-тое з тамтэйшых збораў). Прычым у яго паведамленнях добра адчуваецца натура калекцыянера, чалавека, апантанага сваёй справай, яго асветніцкая праца сярод народа, ацэнка аўтарам тагачаснай палітычнай сітуацыі, грамадскія погляды, матэрыяльныя цяжкасці. Сярод іншага Ельскі піша пра пераклад на беларускую мову «Сямі вечароў» польскага пісьменніка Юзафа Супіньскага, які ён меў зрабіць. Па гэтай нізцы лістоў можна скласці пэўнае ўяўленне пра асобу неардынарнага аўтара, яго зацікаўленні і дзейнасць на культурнай ніве Беларусі.

Названыя публікацыі «Беларускага археаграфічнага зборніка», як і матэрыялы папярэдніх яго выпускаў, несумненна будуць карыснымі пры складанні сумарных каталогаў беларускай архіўнай, бібіліятэчнай і музейнай спадчыны, якая знаходзіцца за рубяжом. Неабходнасць падрыхтоўкі такіх каталогаў (у тым ліку на падставе зборнікаў «Вяртанне», восьмы выпуск якога знаходзіцца ў друкарні) даўно наспела.

***Яраш МАЛІШЭЎСКІ,***
***сябар камісіі «Вяртанне» пры БФК, «Голас Радзімы»***



Фота Ігара ГРЭЧКІ

# Дабро можа зрабіць толькі добры чалавек

***У народаў Блізкага Усходу існуе прымаўка: «Дом без вяселля сустракаецца, але дома без смерці не знойдзеш». Мабыць, таму гэтыя народы так добра шануюць старых, захоўваюць памяць аб сваіх пакаленнях. На жаль, гэтага нельга сказаць аб нашых людзях, асабліва – народжаных у савецкі час. Нехрысціянская мода пахавання на плошчах, у каменных сценах, прыўнесеная бальшавікамі, знізіла статус абрада пахавання на могілках. Магчыма, і пагэтаму людзі абыякава адносіліся да пахаванняў, могілак.***

З доўгіх часоў побач, па-суседску, жылі ў мястэчку Галоўчын беларусы, яўрэі, рускія. Разам жылі, разам весяліліся, але хавалі памерлых паасобку, на сваіх могілках. А падзяляла іх толькі палявая дарога.

У 1941–1944 гадах жыхары Галоўчына вымушаны былі жыць ва ўмовах фашысцкай акупацыі. Каля 150 мірных жыхароў вёскі былі забіты захопнікамі ды іх памагатымі. У тым ліку, паводле нашых падлікаў, аказаліся застрэленымі і 71 жыхар яўрэйскай нацыянальнасці – практычна ўсе з іх, хто застаўся на акупіраванай тэрыторыі.

Зразумела, што пасля апошняй вайны могілкі нашых землякоў-яўрэяў аказаліся без належнага догляду. Больш за тое, на месцы іх пахавання з цягам часу ўзніклі гаспадарчыя пабудовы, а надмагільныя помнікі скарыстаны ў якасці будаўнічага матэрыялу – закладзены ў падмуркі. Стараннямі мясцовых краязнаўцаў адзін з надмагільных помнікаў удалося адшукаць. Цяпер ён знаходзіцца ў Галоўчынскім музеі.

Галоўчынскія яўрэйскія сем'і былі расстраляны фашыстамі ў перыяд 1941–1942 гадоў. Большасць з іх загінула ва ўрочышчы «Будкі», што прыкладна за два кіламетры на поўнач ад Галоўчына. Частка была дастаўлена і расстраляна непадалёку ад вёскі Задруцкая Слабада, што побач з Бялынічамі.

Хацеў бы выказаць свой пункт гледжання наконт таго, чаму так здарылася з мясцовымі яўрэямі, чаму такія вялікія ахвяры. Як вядома, фашысцкі генацыд у адносінах да яўрэяў у самой Германіі пачаўся восенню 1938 года, калі пачалі ствараццa лагеры для яўрэйскага насельніцтва, перарослыя пазней у гета. Здавалася б, што аб такой палітыцы Гітлера ў Савецкім Саюзе павінны былі ведаць усе. І асабліва – яўрэі.

Успамінае Аляксандра Маркаўна Брылёва, сувязная партызанскай брыгады «Чэкіст»: «З першых дзён акупацыі ў вельмі цяжкім становішчы апынулася яўрэйскае насельніцтва. Увосень 1941 года да мяне наведаліся Хая Ізаксон, Фрыда Фенуман, Дзіна Мейсцер. У іх на верхняй вопратцы былі прымацаваны сіяніцкія белыя зоркі. Не ведалі тады мы, што гэта наша апошняя сустрэча».

Чаму ў такім разе яўрэі перад прыходам ворага не пакінулі Галоўчын, ратуючы самае дарагое – жыццё? Пасля 23 жніўня 1939 года, калі быў падпісаны «пакт Рыбентропа – Молатава», са старонак савецкіх газет знікла ўсялякая крытыка фашысцкага рэжыму ў Германіі, і ва ўмовах поўнай інфармацыйнай ізаляцыі насельніцтва СССР аб зверствах гітлераўцаў было невядома. Адсюль – такая рэакцыя нашых землякоў-яўрэяў, і такі трагічны вынік іхняй самазаспакоенасці. Па словах сведкаў, пастраляныя галоўчынскія яўрэі былі закапаны ў вялікім рове. На вялікі жаль, гэтаму напітанаму бязвіннай крывёю месцу ў свой час не быў нададзены статус мемарыялу. Тут нават не быў пастаўлены памятны знак. А напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя на месцы былога расстрэлу яўрэяў заплюскаўся штучны вадаём. Аматары рыбнай лоўлі, якія з ахвотаю наведваюцца на беразі гэтага возера, закідваючы ў ваду вуды, нават і не падазраюць, што тут адбывалася ў далёкіх ужо страшэнных 40-х гадах.

Ці ж гэта не бяспамяцтва?

У цэнтры Галоўчына, на высокім кургане, высіцца мур недабудаванай царквы. Калісьці на гэтым самым месцы стаяла драўляная праваслаўная бажніца: па звычаю, святараў якія памiралі ў гэтым прыходзе, хавалі каля царквы. Ведалі ці не пра гэта будаўнікі з ПМК-241, але пры ўзвядзенні імі сцен новага храма пахаванні тыя былі раскапаны і косці памерлых доўгі час валяліся на забаву мясцовай дзетвары, якая была выхавана атэістамі. Сёе-тое мы сабралі, склалі ў скрыні, і ляжаць яны як напамінак аб нашай абыякавасці і бяспамяцтве.

Восенню гэтага года адкрыта яшчэ адно пахаванне – на месцы калгаснай звалкі металалому. Паўстае пытанне аб далейшым лёсе гэтай безымяннай магілы.

Вядома, перш-наперш неабходна добраўпарадкаваць яе, вызначыць прыналежнасць.

І наогул, трэба неадкладна правесці апісанне ўсіх пахаванняў на тэрыторыі раёна, устанавіць на іх мемарыяльныя ўказальнікі. Гэта неабходна зрабіць і для таго, каб аніводная будоўля не паўставала на людскіх касцях.

Напрыканцы хочацца нагадаць народную мудрасць, якая сцвярджае, што зло можа зрабіць кожны, а дабро – толькі добры чалавек.

Дык будзем жа рабіць толькі дабро.

***В. ЦЫРКУНОЎ,***
***настаўнік Галоўчынскай СШ***

## Інтэрнет-сістэма для інвалідаў і іх блізкіх

створана ў Беларусі. У «сусветнай павуціне» па адрасе www.difftrentequal.org зараз можна адшукаць інфармацыю, якая тычыцца людзей з абмежаванымі магчымасцямі.

Ініцыятарам стварэння Інтэрнет-рэсурсу стала беларускае маладзёжнае аб'яднанне «Розныя – роўныя». Рэалізуецца праект пры падтрымцы фонда «Акцыя чалавека» і ў супрацоўніцтве з нямецкай арганізацыяй «Fortotscka e.v.». Сайт утрымлівае вялікі банк даных розных спецыяльных навучальных устаноў, медыцынскіх і рэабілітацыйных цэнтраў. Там таксама можна падабраць сабе месца для вольнага часу і пазнаёміцца з аднагодкамі. На сайце працуюць юрыдычная і псіхалагічная кансультацыі, кадравае агенцтва.







Фота Міхася ХАМЦА

# Папрацуеш – адпачні

У ВАЛОЖЫНСКІМ РАЁНЕ працягваецца аздараўленне школьнікаў. Да яго супрацоўнікі аддзела адукацыі райвыканкама падышлі з разуменнем справы і загадзя. З кожным з дырэктараў школ – 14 базавых, 18 сярэдніх, 2 пачатковых – яшчэ зімой была абмеркавана занятасць навучэнцаў у летні перыяд. Паколькі стацыянарнага аздараўленчага лагера на балансе аддзела няма, прынялі рашэнне арганізаваць адпаведны адпачынак з дзённым і кругласутачным знаходжаннем у тры змены пры школах раёна.

У дзённых лагерах пры школах раёна за лета адпачнуць больш за тысячу вучняў. Кожны з 21 дня змены насычаны рознымі мерапрыемствамі. Так, у лагеры "Дружба" Каменскай СШ выкладчыкі раскажуць пра герб і флаг нашай краіны, вучні адновяць экалагічныя дарожкі, правядуць турыстычныя спаборніцтвы і зробяць аднадзённы паход да помніка ахвярам фашызму, пройдуць творчыя замалёўкі "Традыцыі беларусаў", працоўныя дэсанты. Атрад міласэрнасці акажа дапамогу ветэранам вайны.

У некалькіх лагерах, такіх, як "Крынічанька" на базе Чахоўшчынскай школы-інтэрната, "Казка" Вішнеўскага сацыяльнага прытулку, спартыўна-патрыятычным лагеры "Патрыёт", арганізаванага сумесна з вайсковай часцю, БРСМ і інспекцыяй па справах непаўналетніх на базе былога Пяршайскага цэнтра рэабілітацыі насельніцтва, адпачнуць і папраўяць здароўе больш як 600 школьнікаў.

## Творчасць нашых чытачоў

### Чалавек і прырода

*Чалавек – гэта частка прыроды,*
*Як жывое ўсё ў маці-зямлі,*
*Як моры і акіянскія воды,*
*Усе травы, лясы і палі.*

*Чалавек – гэта нешта і болей,*
*Зразумець яго не проста так:*
*Сын прыроды, з вялікай ён воляй,*
*Як самы няўмелы слабак.*

*Шмат стварае, яшчэ болей рушыць,*
*Шмат ён сее, яшчэ болей рве,*
*Ён прыроду за горла і душыць,*
*Ён малюе яе і пяе.*

*Ён знаходзіць у ёй шмат пытанняў,*
*Яшчэ болей адказаў дае,*
*Дападае да многіх ён тайнаў,*
*Іх пазнаў, але можа і не.*

*Чалавек цесна звязан з прыродай,*
*Што ў палях, у лясах, раўчуках.*
*Хто ён ёсць ёй, кім быць яшчэ можа –*
*Гэта ўсё ў чалавечых руках.*

### Раніца

*Раніца да нас прыйшла,*
*Яркая, вясёлая.*
*Знікла як і не была –*
*Ночка тут жа кволая.*

*Прамень глянуў у акно,*
*Асвяціў хаціну,*
*Разбудзіў у ёй жыццё,*
*Свет з дабром пакінуў.*

*Як не хочацца ўставаць*
*Раніцай у школу.*
*А надвор'е скажа мне:*
*"Будзе дзень вясёлы".*

*І адразу на душы*
*Стане добра, светла.*
*Прачынайся і бяжы*
*Басанож у лета.*

### Пралеска

*Сярод бруднасці шэрага свету,*
*Сярод смецця і пылу дарог*
*Расквітнела вясною пралеска,*
*Кліч жыцця ёй у тым дапамог.*

*Хай расце яна ў ласцы вялікай,*
*Аглядае лясы і палі.*
*Хай здзіўляе парой сакавіцкай*
*Цуд прыроды на роднай зямлі!*

### Я буду памятаць пра гэта

*Сяджу на лузе гаманлівым,*
*Бруістая рачулка дзе,*
*Над галавою кліч буслiны,*
*Па камяні ж жучок паўзе.*

*А побач гай пяе бясконца,*
*Але аб чым – не разабраць.*
*І так ласкава свеціць сонца!*
*Як да жыцця пад ім не ўстаць!*

*Імгненна тут прыйшло пытанне:*
*"Няўжо магу змяніць калі*
*Часіны шчасця ў родным краі*
*На што другое на зямлі?"*

*О, не, не будзе так ніколі!*
*Ніколі не змагу забыць*
*Азёраў сінь у наваколлі*
*І пуцяводную рэк ніць.*

*Птушыны спеў у гаі дубовым*
*І колер жыта залаты,*
*У гушчары – водар ліповы,*
*На лузе – кветак палявы.*

*А давядзецца на край света*
*Паехаць калі-небудзь мне,*
*Я памятаць буду ўсё гэта,*
*Дамоў вярнуся хай і ў сне.*

**Вераніка ЧЫЖЫК,**
**вучаніца 8 "Б" класа СШ**
**№ 202 г. Мінска**

Століншчына. Мясціна, якую называюць "Тры дубы"



Фота Ігара ГРЭЧКІ

## Набалелае

# ...І нейкай боскай станавілася душа

### Неабыякавыя нататкі

***Іх мне хацелася б пачаць з такой замалёўкі з нашага нацыянальнага жыцця. Маці на гарадской вуліцы пытаецца ў сына:***

***– Ігар, ты ўсе літары вывучыў?***

***Хлопчык уздыхае:***

***– Усе літары не вывучыш! З-за мяжы прывозяць у Беларусь усё новыя і новыя. Паглядзі, мама, колькі незразумелых літар на шыльдах.***

...Яшчэ ў даваенныя гады Максім Гарэцкі пісаў пра настаўніка, які ў старой дарэвалюцыйнай школе за кожнае слова, сказанае школьнікам па-беларуску, біў лінейкай. Сёння, у пачатку XXI стагоддзя, вучняў не б'юць, але тыя ўпарта не жадаюць размаўляць на роднай мове. Ды і самі настаўнікі карыстаюцца матчыным словам хіба што толькі на ўроках. Што ж з намі як з нацыяй адбываецца? Чаму ж мы сталі людзьмі перакаці-поле, нейкімі кваснымі патрыётамі?

Адразу заўважу, што ва ўсім цывілізаваным свеце сёння мы назіраем цягу да славянскіх моў. Шматлікія замежныя лінгвісты з даўніх часоў цікавяцца беларускай моваю. У краінах СНД ёсць суполкі яе прыхільнікаў. А ў нас родная мова ледзь існуе ў грамадстве, у школах лічыцца другарадным прадметам, нягледзячы на тое, што гэта дзяржаўная мова Рэспублікі Беларусь. Праўда, тэсты можна (па выбары) здаваць і па-беларуску, але ж на вывучэнне беларускай мовы ў 10–11 класах адводзіцца толькі адна гадзіна. Ніхто так ва ўсім цывілізаваным свеце здзекліва і абразліва не ставіцца да роднай мовы!..

Роднае слова амаль поўнасцю выкінута і з сямейнага ўжытку. Назіраю аднойчы сцэнку ў кнігарні. Дачушка просіць маму купіць ёй кніжку па-беларуску. Паўза – і раптам чую:

– Гэтыя ж сказкі па-беларускі!..

Прагучала з вуснаў маці так, як быццам па-беларуску – гэта не па-людску. Чаму часцей за ўсё ў нас беларуская мова патрэбна толькі пісьменнікам? Калі і надалей ісці такім шляхам, то хутка і мастацкая літаратура, створаная імі, пачне выконваць толькі спецыфічную эстэтычную функцыю, айчынныя кніжкі не будуць прыносіць пачуцця асалоды чытачам. Мне, як беларусу, балюча і горка на сэрцы, што роднае слова ператварылася ў латынь... Гэта пры тым, калі ў бібліятэках безліч розных цікавых беларускіх кніг.

Без матчынага слова народ траціць сваё духоўнае аблічча: гінуць гістарычная спадчына, нацыянальная культура, зарастаюць дзірванам вытокі этнагенезу. "Дазвольце *падзякаваць вас...*" – гэтую, напрыклад, фразу можна пачуць даволі часта і па радыё, і па тэлебачанні. Яна, зразумела, рэжа вуха. Атрымліваецца: нават тыя, хто гаворыць у нас па-беларуску, часта думаюць па-руску (правільна: *падзякаваць вам*!)

... А я ж запомніў на ўсё жыццё смачны пах куцці ў старэнькай бацькоўскай хаце. І ўрачыстыя поклічы бацькі: "Каляда! Каляда! Ідзі да нас куццю есці!" Сказана было на роднай мове, на той самай, якую чуў з самых першых гадоў жыцця на роднай зямлі. А як хораша і непаўторна спявалі маці і бабуля народныя песні, ды і сама іх гаворка была трапна аздоблена шматлікімі беларускімі прыказкамі і прымаўкамі, параўнаннямі і афарыстычнымі злучэннямі слоўцаў роднай гаворкі. Гаварыў бацька па-беларуску – і нейкай боскай, шчодрай станавілася мая душа Хацелася адразу любіць родную прыроду, тых людзей, што акружалі з маленства. Любіць свой род Карнелюкоў, даследаваць яго карані і вытокі, складаць генеалагічнае дрэва.

Сёння мы ўсе разам павінны змагацца за рэальны ўздым аўтарытэту і прэстыжу беларускай мовы, за тое, каб яна паўнапраўна, свабодна і смела гучала на зямлі яе вялікага стваральніка – беларускага народа. За тое, каб усе мы, жыхары Беларусі, усвядомілі: нацыя зможа выжыць, толькі адчуўшы сябе еднасцю – культурнай і эканамічнай. Адчуўшы Народам з вялікай літары. Я, як грамадзянін, выразна ўсведамляю, што з мэтай кансалідацыі грамадства і больш эфектыўнага стваральнага выкарыстання магутнай нацыянальнай энергіі менавіта адраджэнне беларускай мовы з'яўляецца адной з першачарговых культурных задач Рэспублікі Беларусь у пачатку XXI ст. Заўважу, што як еднасць, асабліва дзяржаўную, любы народ зберагае сябе толькі тады, калі не губляе сваёй мовы, рэлігійнай веры (а мы верым і ў Бога то па-руску, то па-польску), праверaных шматлікімі выпрабаваннямі часу; звычаяў і самабытнасці, што яскрава занатаваны ў айчынным фальклоры, якога, дарэчы, яшчэ ў 70–80-я гады XX ст. было выдадзена ажно 30 тоўстых тамоў. А дзеля гэтага навукоўцы, выкладчыкі са студэнтамі аб'ехалі ўсе куточкі нашай Бацькаўшчыны, каб пачуць з вуснаў старажылаў тыя бессмяротныя дыяменты народнай мудрасці. Хочацца пажадаць сённяшняй моладзі тахіх жа заўзятых вандровак – у Народ, па Фальклор.

Вучоныя неаднойчы даказвалі, што па прыгажосці і мілагучнасці беларуская мова займае адно з першых месцаў ў свеце – пасля італьянскай. Гісторыя беларускай духоўнасці нас вучыць многаму. Многаму можа навучыць і гісторыя беларускай эміграцыі, дасягненні якой у многіх галінах роднай мовы, беларускай духоўнай культуры часта перавышаюць айчынныя. Чаго не можа зрабіць увесь наш народ, з задавальненнем робяць свядомыя беларусы за мяжой. Беларусы свету імкнуцца шчыра і бескарысліва дапамагаць шматлікім ахвярам чарнобыльскай катастрофы. І мы на роднай зямлі павінны пашыраць і мацаваць кантакты з замежнымі суродзічамі, спрыяць развіццю і захаванню нацыянальных асяродкаў беларусаў ва ўсіх краінах свету, сябраваць з іншымі нацыямі.

Цікава ж, напрыклад, што наша слова "бульба" ведаюць далёка па-за межамі Беларусі. Сэнс яго мала каму трэба тлумачыць. То як жа не даражыць такім скарбам, як наша мова, як не шанаваць яе? Як не даражыць беларускай гасціннасцю з нашымі традыцыйнымі дранікамі і іншымі вырабамі з бульбы?

... А я зноў і зноў у грамадскім транспарце чую абрыдлую трасянку: "Мушчына, вам ні муліт?", "Прыабратайця бялеты!" Няўжо кандуктару цяжка сказаць: "Набывайце білеты!"

Я вельмі не хачу, каб гэтая мая размова пра гаротны стан беларускай мовы і беларусізацыі зноў стала, як і многія падобныя ранейшыя ў друку, нейкім агульным месцам ці звычайным патрыятычна-пафасным пісьмом. Канечне, прасцей за ўсё будзе заявіць, што мова наша – непрэстыжная. Ды і папрацаваць трэба, каб добра навучыцца размаўляць на ёй.

Не радуе мяне наша рускамоўнае і трасянкавае першае нацыянальнае тэлебачанне. Я ўжо не кажу пра якасць яго перадач. Якое ж яно Першае Нацыянальнае, калі там роднае слова на задворках? Ці, мо, шаноўныя вядучыя забылі, што ў нас, акрамя рускай, дзяржаўнай мовай з'яўляецца беларуская? Хто працуе ў нас на тэлебачанні? Нейкія хлопчыкі і дзяўчынкі з незайздросным інтэлектам? А каб мова станавілася на тэлебачанні прэстыжнай, яна павінна гучаць з вуснаў настаўніц роднай мовы, пісьменнікаў, артыстаў; з вуснаў разумных, шаноўных і інтэлігентных людзей грамадства.

Я веру, шго настане той час, калі за словамі беларуса "мой народ", "мая нацыя", "мая дзяржава" стане рэальны змест. Я веру, што сапраўдная воля і незалежнасць у нас яшчэ наперадзе! А хто , як не мы, адродзім Айчыну і запалім паходню любові да роднай зямлі? Я заўсёды вучням нагадваю словы неўміручай паэтэсы Цёткі: "На вас, моладзі, ляжыць вялікая адказнасць: развіваць далей родную мову, узбагачаць свой народ ведамі і культурай". І мы, найперш інтэлігенты, павінны несці ў народ свой найвялікшы скарб – родную мову, фальклор, культуру, духоўнасць.

Я вельмі хачу, каб кожны беларус XXI ст. вывучыў на памяць словы слыннага паэта Бацькаўшчыны Алеся Гаруна:

*Ты, мой брат, каго зваць беларусам,*
*Роднай мовы сваёй не цурайся;*
*Як не зрокся яе пад прымусам,*
*Так і вольным цяпер не зракайся...*

З пажаданнямі духоўнага нараджэння і ўваскрашэння, дарагія суайчыннікі!

***З павагай Кастусь КАРНЯЛЮК,***
***педагог, ваш чытач,***
***г. Віцебск***

*Беларусь – Польшча*

## Гродзенскія дні ў Вроцлаве

Вядомыя не толькі ў Беларусі, але і ў многіх краінах Еўропы ансамбль песні, музыкі і танца «Белыя росы», камерны хор Гродзенскай капэлы, тэатр лялек са спектаклем «Тутэйшыя», а таксама гродзенскіх бардаў сабраў 10–13 чэрвеня ў польскім горадзе Вроцлаве першы фестываль культуры Гродна. У яго праграме таксама фотавыстаўка «Гродна – мой горад» і выстаўка гродзенскіх мастакоў.

Гродна і Вроцлаў нядаўна сталі гарадамі-пабрацімамі, заключыўшы пагадненне аб сяброўскіх сувязях. Прадугледжана развіццё кантактаў у самых розных сферах – медыцыны, адукацыі, культуры, спорту.

**Барыс ПРАКОПЧЫК**

# Старадаўнія прафесіі

***(Раздзелы з кнігі)***

## Рахункавод

Была такая прафесія – рахункавод. І не так даўно чалавек, які ўмела карыстаўся адмысловымі лічыльнікамі, быў акружаны пашанаю і павагаю як асоба выбітная. Эпоха «лічыльнай машыны» працягвалася вельмі доўга, лічыльнікі верна служылі чалавеку, але час іх усё ж сышоў у мінулае. Хаця звычайныя касцяшкі на дроціках, замацаваных на драўлянай рамцы, дзе-нідзе і сёння скарыстоўваюцца ў наш час электронікі.

А што было да іх? Людзі ж навучыліся лічыць задоўга да іх вынаходніцтва... На досвітку арыфметыкі была вынайдзена старажытная ЭВМ. Насіць з сабою яе было няпроста. Памеры лічыльнага прыбору – які называўся абак – былі метр на паўтара, выраблялася з матэрыялу не самага лёгкага, дакладна трывалага – мармуру, напрыклад.

Самы старажытны абак са знойдзеных на сённяшні дзень адносіцца да IV ст. да н. э. Ён быў знойдзены пры раскопках, што праводзілі англічане ў 1846 г. на востраве Саласіс у Эгейскім моры. Старажытная Грэцыя, вядома, не адзіная месца, дзе карысталіся абакам (хаця засталося якраз грэчаскае слова «абак», што азначае «дошка»). Падобныя прыстасаванні былі ў розных краінах. Выраблялі іх з самых разнастайных матэрыялаў. У Грэцыі, Рыме, Егіпце касцяшкі рабілі з каменя, у Індыі – з ракавінак, у Кітаі і Японіі «ячэйкай» старажытнай ЭВМ была палачка. Але прынцыповая канструкцыя паўсюль была прыкладна аднолькавая: жолабы, у кожным з якіх – пэўная колькасць лічыльных адзінак.

Прайшоў час, сышлі каменныя і драўляныя абакі, звычайныя лічыльнікі з костачкамі. Мы прызвычаіліся да электрамеханічных лічыльных машын, перажылі вялізныя ЭВМ, што займалі цэлыя залы. Але сёння і яны – мінулае вылічальнай тэхнікі. Многія з нас карыстаюцца сучаснымі абакамі – невялікімі абакамі – калькулятарамі, якія носім у кішэні пінжака або жаночай сумачцы.

## *Не месца красіць чалавека...*
## Асенізатар

Спецыяльнасцю асенізатара ў даваенныя часы пужалі вучняў-лянотнікаў. Лічылася, што «залатар» (як іранічна называлі ў народзе) – самая нізкая (найніжэйшая) прыступка ў рангах прафесій, зусім няварты і пагардлівы занятак.

Але жыццё даводзіла іншае. Уладальнікам асенізатарскага абозу – некалькі запрэжаных падводаў з драўлянымі гарызантальнымі бочкамі на ўсю даўжыню падводы – быў яўрэй Іцка Мулер. Яму ж належалі ўсе коні абоза. Калі карыстацца сучаснаю тэрміналогіяй, то Мулер быў прыватным прадпрымальнікам, у якога працавалі наёмныя рабочыя. Але ў той час ён быў у падначаленні гарадскога магістрата.

Абознікі працавалі толькі ўначы, прычым вельмі ахайна. Там, дзе праехаў асенізатарскі абоз, маставая заўжды была чыстая і прыбраная. За разлітыя з бочкі і непрыбраныя нечыстоты Мулер плаціў штраф. Нечыстоты вывозіліся за горад і зліваліся ў глыбокія ямы, якія адразу ж засыпаліся, або толькі часткова прысыпаліся. Пра тое, што гэтак засмечваліся грунтовыя воды, тады проста не думалі, ды, відаць, і не ведалі.

За сваю добрасумленную і доўгую працу, цяжкую і непрэстыжную, за заслугі перад Лунінцом і іншымі жыхарамі Іцка Мулер атрымаў спецыяльны бронзавы медаль і дыплом гарадскога магістрата. Сярод простых працаўнікоў так уганараваўлася нямногія.

У добрыя летнія дні амаль кожную пятніцу, калі надыходзіў святочны вечар перад шабатам, Мулер апранаў чорны касцюм-тройку, пакрываў галаву чорнай круглай шапкай, з кішэні ў кішэню камізэлькі паўз ладны жывот прыладжваўся масіўны залаты ланцужок з гэткім жа гадзіннікам, а на лацкане пінжаказзяў начышчаны бронзавы магістрацкі медаль. У такім выглядзе Іцка Мулер стаяў каля веснічак свайго дома, прыветна вітаўся з гараджанамі. Яго ведалі ўсе. Вось такі «залатар» з медалём.

**Леў КОЛАСАЎ**

*Царкоўнае краязнаўства*

# Дарога да святыняў

***Ніхто не стане аспрэчваць, што гісторыя царквы – гэта радаслоўная ўсялякай іншай гісторыі. Спадчына пазнаецца найбольш змястоўна і глыбока, калі яна вынікае з рэлігійнай спадчыны. Чаму? Таму што там ёсць святыні, якія народ спрадвеку шануе, якіх прытрымліваецца і якім падпарадкоўваецца. А яшчэ таму, што царква як уплывовы грамадскі і дзяржаўны інстытут на працягу стагоддзяў прыцягвае да сябе найбольш дасведчаных гісторыкаў-краязнаўцаў, яна назапасіла за гэты час багаты духоўна-культурны скарб. І гэты скарб, гэтыя святыні, як і традыцыйная частка жыцця народа, кладуцца ў аснову сучаснага краязнаўства. Многія аматары-даследчыкі родных мясцін звяртаюцца ў сваіх пошуках да царкоўных першакрыніц, дакументальных сведчанняў рэлігійнага кшталту.***

Такая тэндэнцыя заўважана і на высокім рэспубліканскім узроўні. Сёлета Міністэрства культуры і Беларуская праваслаўная царква прынялі сумесную праграму супрацоўніцтва ў галіне культуры і творчай дзейнасці, аховы, аднаўлення і развіцця гістарычнай і культурнай спадчыны. Можна смела сказаць, што падобнага дакумента яшчэ не мела наша краіна. Яго зацвердзілі сваімі подпісамі міністр культуры Леанід Гуляка і мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт.

І вось нядаўна па ініцыятыве групы мінскіх краязнаўцаў, уключаючы прадстаўнікоў Мінскага епархіяльнага ўпраўлення Беларускай праваслаўнай царквы, была праведзена сустрэча з узденскімі актывістамі гэтага руху. Хацелася пабываць у вядомых мясцінах, выявіць, наколькі гэтая праграма запатрабавана ў раёнах, ва ўстановах культуры. Натхняльнікам і арганізатарам паездкі стаў, як заўжды, Уладзімір Кісялёў – вядомы знаўца гісторыі Узденшчыны, усяго Наднямоння, аўтар шэрагу кніг па краязнаўстве. Яго, чалавека сталага ўзросту, непакоіць тое, што на пэўным этапе грамадскі краязнаўчы рух на Узденшчыне крыху паслабеў. Гэта звязана з шэрагам абставін, у першую чаргу з тым, што пайшлі з жыцця такія зацікаўленыя асобы, сапраўды народныя даследчыкі краю, як пісьменнік Алесь Махнач, Адам Александровіч, Станіслаў Шкадзінскі, Іван Бельскі і іншыя. Каму пяройдзе занепакоенасць праблемамі, якія сталі для іх часткай жыцця? А ёсць і такія задумы, якія сёння трэба і можна рухаць далей.

Возьмем выток Нёмана. Па сутнасці, ён страчаны падчас буйных меліярацыйных работ, пазначана толькі месца, адкуль бярэ пачатак славутая рака. Ці сядзіба вучоная ў галіне электраграфіі і магнетызму Якуба Наркевіча-Ёдкі. Сёння яшчэ ёсць сякія-такія рэшткі былых пабудоў, а што будзе далей? Летась сіламі райвыканкама і мясцовых падзвіжнікаў захавання спадчыны ўдалося аднавіць фамільныя магілкі Ёдкаў, на якіх, як мяркуецца, пахаваны і Якуб Атонавіч. Якісьці больш буйны праект па рэстаўрацыі сядзібы раёну не «пацягнуць». Патрэбен дзяржаўны ўзровень, а можа, і міжнароды.

Такі ж лёс, відаць, наканаваны і былому маёнтку Кухцічы, з якім звязаны імёны плеяды знакамітых беларускіх асветнікаў, уключаючы Сымона Буднага, братоў Кавячынскіх, графаў Завішаў, нарэшце, абаронцу беларускасці Магдалену Радзівіл.

Прыкра, але пакуль ніяк не пазначана месца былой сядзібы памешчыкаў Булгарыных (паміж вёскамі Пырашава і Загоршчына), дзе нарадзіўся сучаснік Пушкіна, Лермантава, Грыбаедава – Фадзей Булгарын. Наконт яго імя існуе самая рознабаковая думка і неадназначная ацэнка. Але ў той жа час ён – выдатны журналіст, буйны арганізатар выдавецкай справы, вядомы раманіст, які пакінуў прыкметную творчую спадчыну.

Пра гэтыя праблемы гаварылі пасля канферэнцыі-прэзентацыі кніг па краязнаўстве яе ініцыятар Уладзімір Кісялёў, намеснік старшыні райвыканкама Міхаіл Лапотка, рэферэнт мітрапаліта Генадзь Шэйкін, доктар гістарычных навук Леанід Лыч, настаўнік-пенсіянер Міхаіл Лазар і іншыя з тых, хто завітаў у той дзень у раённы гісторыка-краязнаўчы музей.

– Мы з вялікай зацікаўленасцю далучыліся да такой сустрэчы, бо лічым, што трэба аднаўляць царкоўнае краязнаўства, якое доўгі час знаходзілася ў забыцці, – патлумачыў Генадзь Шэйкін. – Мы будавалі музеі баявой славы, адкрывалі пакоі памяці і музеі, прысвечаныя якімсьці асобным падзеям, што, дарэчы, і правільна рабілі, але пры гэтым упускалі яшчэ адну складаючую гісторыі роднага краю – гісторыю царкоўных прыходаў, якая, між іншым, на беларускіх землях доўжыцца больш за тысячу гадоў.

Акрэслены прабел, вядома, трэба ліквідаваць агульнымі высілкамі. І добры прыклад тут паказалі самі ўздзенцы, калі далучылі да мерапрыемства святара ўздзенскай царквы айца Грыгорыя, які адслужыў малебен па дзеячах навукі і культуры.

У рамках сустрэчы была аддадзена даніна памяці былому протаіерэю Міхаілу Навіцкаму, прылічанаму царквой да ліку навамучанікаў.

Як вядома, у эпоху шалёнага ганення на царкву шмат святароў развіталіся з жыццём у турмах, лагерах, ссылках. Але былі такія, хто застаўся ў веры да канца. Што датычыць свяшчэннаспаведніка айца Міхаіла, то ён служыў ва Уздзе. А было гэта так. У 1935 годзе на Вялікдзень айцец Міхаіл быў моцна пабіты раз'юшаным натоўпам так званых атэістаў. Але пры гэтым яшчэ заставаўся некаторы час жывы. І палічыў сваім абавязкам адслужыць велікодную ўсяночную, што і зрабіў, толькі ляжачы, бо ногі ў яго былі паламаны. На трэці ж дзень Вялікадня святар памёр.

Гісторыя сям'і Навіцкіх мела свой незвычайны працяг у біяграфіі сына Мікалая, чые дзіцячыя і юнацкія гады прайшлі ва Уздзе. Пасля сямігодкі ён пэўны час працаваў на чыгунцы ў Магілёве, а ў 1940 годзе быў прызваны ў Чырвоную Армію. Ваяваў на Заходнім, потым на Паўночным Каўказе.

Загінуў 10 кастрычніка 1942 года, здзейсніўшы подзвіг, які 23 лютага 1943 года паўтарыў Аляксандр Матросаў. У Мікалая Навіцкага была толькі адна «перавага»: ён быў камандзірам аддзялення, старшым сяржантам, а яшчэ, відаць, жыў памяццю пра бацьку, які сам быў вялікім патрыётам сваёй Айчыны і гэтак жа выхоўваў дзяцей. І калі з замаскіраванага варожага дзота ўдарыў кулямёт, Мікалай паспрабаваў закідаць яго гранатамі. Яны хутка скончыліся. І тады ён ірвануўся на агонь кулямёта...

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 31 сакавіка 1943 года гвардзі старшаму сяржанту Мікалаю Міхайлавічу Навіцкаму прысвоена званне Героя Савецкага Саюза (пасмяротна). Ва ўшанаванне яго памяці на магістралях Беларускай чыгункі курсіруе цеплавоз «Мікалай Навіцкі».

У аснове бацькавага і сынавага подзвігу – агульны «рухавік»: вера. Перакананасць у вышэйшай справядлівасці таго ўчынку, на які яны адважыліся. Для іх справядлівасць – таксама святыня. І прыйсці да яе магчыма толькі праз любоў да ўсяго, што побач, чым жывеш паўсядзённа.

***Праз асэнсаванне ўсяго зместу такога блізкага і ў многім яшчэ не спазнанага паняцця, як родны край.***

**Мікалай КАРОЛЬ, «Р»**



Дзве царквы ў Халопенічах. Адна – разбураная, другая – новазбудаваная, побач з былой святыняй. Як адзіны помнік людскога раскаяння.

*Фота Міхася КЕНЬКІ*





# Побыт даўніх часоў, што ў нябыт уцяклі,

## *альбо* Магілёўская старасвеччына для ўсіх








***(Заканчэнне. Пачатак у № 26)***

Яна не толькі абшывае сваю сям'ю, але і зарабляе шыццём на жыццё. Побач на сімпатычнай "рагатай" вешалцы вісіць гатовы выраб – плашчпыльнік. Дарэчы, у тагачасным Магілёве швейныя машынкі набывалі ў магазіне купца Лур'е на Вялікай Садовай вуліцы ці ў таго ж Лібенсона. Каштавала зінгераўская машынка каля 25 руб., але магчыма было набыць яе і ў растэрміноўку ад 1 руб.

Калі ў дом да звычайнай мяшчанкі трапіць было даволі проста, то ў дваранскія дамы заглядалі ў асобныя дні па спецыяльных запрашэннях. Дарэчы, дваранства складала ў Магілёве 1897 г. каля 10 % насельніцтва. Раскрываюцца разныя філёнчатыя дзверы, і мы ўваходзім у дваранскія пакоі. Адразу відаць, што мы завіталі ў даволі багаты дом. Адноўлены ўмоўны "кабінет чыноўніка", дзе пануе дзелавая атмасфера. Усё гаворыць пра асабісты густ і звычкі гаспадара. Дабротная трывалая мэбля, вялікі пісьмовы стол з цікавай разьбой. Абцягнутае скурай крэсла з разной спінкай. Трохі збоку вялікая кніжная шафа-сейф. Злева – буфет работы мясцовых майстраў з разьбой на паляўнічыя сюжэты. На сценах – жывапісныя партрэты блізкіх, пейзажы. На стале – масіўны пісьмовы прыбор, прэс-пап'е для папер, бюст Мікалая I, іншыя дробязі.

А ў наступным памяшканні збіраліся на сямейныя вечарыны, абмяркоўвалі розныя пытанні гарадскога жыцця, святкавалі. Праходзячы па вялікай гасцёўні, мы быццам бы знаёмімся з рознымі насельнікамі дома. "Мужчынскі побыт" прадстаўлены сакрэтнікам з чырвонага дрэва, выкананым у пачатку XIX ст. у стылі "ампір". Адзін з прыкметных рарытэтаў музея – ломберны стол. Менавіта за такім сталом некалі збіралася ўся сям'я, каб згуляць у адну з так званых камерцыйных гульняў (у "дурня", "ярошкі", "безік"). Не аднойчы, відаць, за ім кіпелі і сапраўдныя страсці, калі гулялі ў азартныя – "фараон" ці "штос". Яго вялікасць выпадак прымушаў шмат народу губляць галаву, прайграўшы ў карты неабходнае ў надзеі набыць лішняе і неверагодна разбагацець. Відаць не адна маёмасць разляталася ў прах ў губернскім Магілёве, дзе пра картачную гульню ніколі не забывалі, асабліва вайскоўцы.

Адзін з неабходных элементаў гасцёўні – люстэрка. Каміннае ці насценнае, яно адлюстроўвае яркія фарбы і пазалоту мэблі, свет люстраў і свечак. Як і зараз, нельга было абысціся і без гадзінніка. Вось вельмі прыгожы ўзор гадзінніка ў стылі ракако з гарэзлівымі пастушкай і пастушком. А вось паміж аконнымі праёмамі вялізны напольны гадзінік. Ён адбівае кожную гадзіну ўжо больш за сто гадоў.

Жанчыны губернскага Магілёва! Іх "дамскі свет" збіраўся ў сваім кутку, дзе вакол зграбнага століка, пакрытага вязаным абрусам ручной работы, абмяркоўвалі апошнія моды, гарадскія навіны, выхаванне і адукацыю дзяцей ці праблемы са служанкай. Іх адзенне ў пэўнай ступені адпавядала сталічнму ці нават еўрапейскаму густу. На рубяжы XIX–XX стст. у горадзе існавала шмат магазінаў гатовага адзення. Была магчымасць утварыць і ўласны строй па апошняму слову парыжскай моды. У вялікай мануфактуры І. Кіслоўскага, напрыклад, гандлявалі любымі тканінамі, а таксама пальчаткамі і празнымі дробязямі жаночага туалету. Разнастайныя капялюшы і капялюшыкі набываліся ў модна-галантарэйным магазіне Мірскага ці ў "M-me Mary".

Так і цягне прысесці на ўтульную канапу ці ў крэсла з паліраванай тапалі, каб адпачыць ля сапраўднага кафлянага каміна XIX ст. Паслухаць, як музыцыруе на піяніна гаспадыня ці яе дочкі. Запісаць найноўшыя вершы ў дамашні альбом. Гарэць свечы ў бронзавых падсвечніках, гучыць Шапэн ці Агінскі, і міжволі ўзнікае водар былой утульнасці і цішыні.

Апошнія дзве залы экспазіцыі тэматычныя. Яны прысвечаны такім супрацьлеглым з'явам, як вайна і рэлігія.

Як гаворыцца ў адным з кінафільмаў "жыццё ў горадзе пачынаецца, калі ў яго ўваходзяць вайскоўцы". У любым губернскім цэнтры імперыі іх заўсёды было шмат. Магілёў таксама не абышоўся без вайсковай справы. Таму першая тэматычная зала так і называецца: "Вайсковая".

Час ад часу па імператарскіх загадах на Магілёўшчыне з'яўляліся даволі вялікія вайсковыя сілы, у тым ліку і ў мірны час. Аглядаючы экспазіцыю, можна даведацца аб малавядомых, але значных у свой час падзеях. Шклоўскі кадэцкі корпус кацярынінскага вяльможы графа С.Г. Зорыча, першыя ў імперыі сумна вядомыя ваенныя паселішчы, галоўная кватэра самай буйной арміі Расійскай імперыі 1815–1829 гг. і Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага Мікалая II у 1917 г. – ўсё гэта асобныя старонкі гісторыі краю. Яны паказаны праз зброю і вайсковы рыштунак, партрэты і відарысы, дыярамы. Шмат месца адведзена дзекабрысцкай старонцы магілёўскай даўніны. Гэта не дзіўна: частка будынка музея – рэшткі езуіцкага калегіума XVII ст., дзе ўзімку 1825–1826 гг. перад галоўнакамандуючым Остэн-Сакенам стаялі на допытах С. І. Мураўёў-Апостал і М. П. Бястужаў-Румін, а таксама іх паплечнікі. Аб гэтай падзеі сведчыць і мемарыяльная дошка, што месціцца на музейным будынку з 1985 г.

Бадай упершыню ў музейнай практыцы Магілёўшчыны знайшла сваё ўвасабленне такая прынцыповая старонка мінулага жыцця, як канфесійнасць. Апошняя экспазіцыйная зала прысвечана грунтоўнаму паказу асноўных рэлігійных плыняў, якія існавалі сярод тагачасных жыхароў губерні: праваслаўя, каталіцызму ды іудаізму. Тут можна пазнаёміцца з галоўнымі прынцыпамі ўбрання розных тыпаў храмаў. У праваслаўных гэта, па-першае, іконы, у каталікоў – скульптуры і алтарныя карціны, ў яўрэяў – роспісы. Усе гэтыя асаблівасці адноўлены з дапамогай аўтэнтычных рэчаў, а таксама атрыбутаў, якія ўжываліся падчас набажэнства.

Дарэчы, паказ духоўнага жыцця яўрэяў (з рэдкімі прадметамі яўрэйскага культа (напрыклад, "Торай" XVIII ст.) і фотаздымкамі 1890-х – 1920-х гг.) здзейснены ўпершыню. Таксама зроблена спроба ўваскрэсіць адну са знакамітых фрэсак з сінагогі, якая месцілася на магілёўскім Школішчы. Яе выканаў калісьці мастак Сегал, а ў музейнай прасторы ўваскрэсіў Базыль Камароў.

Адна з самых балючых страт архітэктурнага хараства Магілёва – бязлітасна ўзарваны ў 1938 г. сабор Свята-Іосіфаўскі. Ад прызнанага шэдэўра класіцызму не засталося нічога. У музеі яго можна пабачыць у выглядзе макета. Адзін з нешматлікіх ацалелых абразоў гэтага храма – "Спас" – выкананы У.Л. Баравікоўскім. Ён размешчаны побач. Упершыню экспануюцца тут ці не самыя каштоўныя абразы з музейных збораў края. Сярод іх перш за ўсё – "Святы Мікола" (2-я пал. XVII ст.) і "Сцэна з жыцця Св.Юр'я" (2-я пал. XVII ст.); двухбаковы абраз "Маці Божая Бялыніцкая" і "Архістратыг Міхаіл". Абраз шануемай ва ўсім хрысціянскім свеце Бялыніцкай Багамаці – невядомая да гэтага часу выява канца XVIII ст., якая ўпершыню выстаўлена ў музейнай зале і тым уведзена ў навуковы ўжытак.

***Безумоўна, стварэнне такой грунтоўнай экспазіцыі, як "Магілёў губернскі", – гэта вынік творчай працы ўсяго калектыву супрацоўнікаў абласнога музея. Агульнае яе вырашэнне было распрацавана яшчэ ў 2000 г. з удзелам пецярбургскіх мастакоў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Праца ажыццяўлялася пад кіраўніцтвам дырэктара музея В. М. Аненкава і загадчыцы музея этнаграфіі С. Б. Рыбаковой. Вялікі ўклад у яе стварэнне ўнеслі навуковыя супрацоўнікі музея Л. Ф. Кандрацьева, А. В. Даўляшэвіч, Л. Л. Томчык. Бліскучае мастацкае афармленне здзейсніў вядомы магілёўскі мастак Базыль Камароў. Каб падрыхтаваць да экспанавання шматлікія музейныя рэчы, была створана спецыяльная група рэстаўратараў з Магілёва. Такім чынам, за даволі кароткі тэрмін удалося падрыхтаваць адну з цікавейшых на Беларусі экспазіцый, якая будзе служыць далейшаму грунтоўнаму вывучэнню нашай мінуўшчыны.***

***Марына ТАРАСАВА***



## Парады юнаму краязнаўцу

### Як шукаць старажытныя назвы?

Старажытныя назвы многіх населеных пунктаў, былых фальваркаў, урочышчаў у наш хуткаплынны час знікаюць. А іх важна захаваць дзеля нашай гісторыі. Для таго неабходна (пад запіс) весці размовы са старымі людзьмі вёскі, мястэчка аб іх маладосці. Няспешныя расказы старажылаў даюць магчымасць ім успомніць дэталі мясцовых назваў вёскі, фальварка, грэблі, поплава, балота. У наш час многія з гэтых назваў падаюцца бессэнсоўнымі – "Цехава", немілагучнымі – "Кабелі". Між тым яны з'яўляюцца характарыстычнымі для канкрэтнай мясцовасці і непаўторнымі на карце Беларусі.

Неабходна весці запіс не толькі назваў, а і паданняў, якія складаліся вакол іх. Менавіта ў паданнях можа таіцца разгадка той ці іншай назвы мясцовасці ці былога практычнага прызначэння гэтага месца (язычніцкія капішчы, сімвалы духаў – дрэва, валун-камень і інш.).

Важнае значэнне для аднаўлення тапанімікі мясцовасці маюць назвы дарог, якія злучалі гэтую мясціну з другою. Да прыкладу: у Мінску захаваліся (адноўлены) вуліцы, якія сведчылі пра геаграфію іншых мясцін: тракты Койданаўскі, Лагойскі, Віленскі, Барысаўскі.

Адной з крыніц вывучэння старых назваў гарадоў і вёсак з'яўляюцца старыя карты XVIII–XX стст. Але праца з імі вымушае наведваць архіўныя ўстановы ў абласных гарадах і Мінску.

Задача для краязнаўцаў – дабівацца адраджэння старажытных назваў вуліц сваіх гарадоў, мястэчак. А для таго і патрэбна вывучэнне мясцовых тапонімаў, уключэнне іх у навуковы зварот.


Лета. Час вандроўных музыкаў

Фота Глеба ЛАБАДЗЕНКІ

*Ад дзядзькі Антося*




Калі пасля дажджу рэха глухое, марось, ліўні могуць і прадоўжыцца.

*Пасляпалудневы дождж крапае і лье доўга.*

Кучмістыя воблакі нізкія – дажджлівае надвор'е, высокія – да пагоды (не блытайце "надвор'е" і "пагода": апошняе па-беларуску – сонечнасць і светласць).

*Вясёлка высока ўскінецца, неба пабеліцца і паблакітнее – на пагоду; будзе нізка – чакай дажджу.*

Улетку пры заходзе сонца неба пачырванее – чакай халоднай расы, а ў жніўні – і першых прымаразкаў, якія робяць вельмі шмат шкоды: у верасні тыя ж агуркі, кабачкі, памідоры маглі б развівацца, пладаносіць далей, але жнівеньскі начны холад іх прыпыніў.

Былі мае сябры-калегі з "КГ" у Навагрудскім і Карэліцкім раёнах; маю рубрыку там заўважылі і пахвалілі; вінаваты... за такое непрадказальнае, уночы халоднае, на час напісання гэтых ліпеньскіх радкоў лета.

Калі горача і суха – адны парады; калі мокра і халадна – іншыя.

На сённяшні дзень, здаецца, няблага расце, мацуецца бульба (начны холад запыніў рост каларадскіх жукоў, але не вельмі расслабляйцеся: жукі возьмуць сваё, перачакаюць і налета заявяцца большым гуртам. Значыць, ранейшыя парады мае не будуць лішнія). З ёю жывяцца цыбуля, морква.

Агуркі, кабачкі, памідоры... На добры толк, іх пара ўжо вызваліць ад розных укрыванняў. Асабліва, калі пачнуць цвісці і ўтворыцца завязь. Агуркі і кабачкі трэба ж апыляць пчолам. Тое, што ацалела, падкарміце па навуковых рэкамендацыях.

Агуркам, кабачкам, пацісонам, гарбузам паспрыяе акрапленне загадзя замочанай у вадзе травою (асабіста я гэта даўно ўжо ўжываю): да настаялага дадаю мыла, попел, мінералку і нагрэтую (налетаваную ваду). Апырскваць, паліваць варта як па раўчуках між вышэйзваных раслін, так і па лісці. Гэта – і падкормка, і змыванне ад кіслотных дажджоў. Тым больш, што ідзе пагроза мучністай расы, фітафторы.

Шчыра раю прыслухацца да тых, хто радзіць з "сырымі" хваробамі змагацца "па-дзедаўску": агрэст і чорную смародзіну ад мучністай расы ратаваць настоем вады, мыла, попелу, сухой гарчыцы; агуркі – настоем птушыных адыходаў ці соды; памідоры – настоем часнаку з дабаўленнем малака.

Сябры, будзьце ўважлівыя сёлета да розных, як мы папросту кажам, мурашак – шматлікіх шкоднікаў тыпу мураўёў і тлі. Яны цяпер жыруюць. Ратунак ад іх – хімікаты і народныя сродкі, якія я вам ужо падказаў. Цяжкасць у тым, што кожны год нягоднікі-паразіты, як і пустазелістыя расліны, прыстасоўваюцца да самых неверагодных умоў.

Ледзь праміргні, прамарудзь – шкоднікі-нягоднікі ў наступленні! Яны, найперш, дбаюць пра сябе і сваё!

Адпаведна мушу зазначыць: сёлетні год – своеасаблівы, і цяпер вам, сябры-дачнікі, многае прыйдзецца вырашаць самім! Будзьма самі гаспадарамі!


Фота Ігара ТРЭЧКІ

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**Афарызм** (з грэч.) – выяўленая ў кароткім, трапным выслоўі значная і арыгінальная думка ў навукова-публіцыстычнай, філасофскай, мастацкай літаратуры, а таксама і ў вуснай форме. "Не шукай ты шчасця, долі на чужым, далёкім полі" (Я. Купала), "Слоў не крышысць ні век, ні тапор" (Я. Колас).

Афарызмамі з'яўляюцца шматлікія народныя прыказкі ("Чым за морам віно піць, лепш з Нёмана вадзіцу", "Груган гругану вока не выдзеўбе"). Афарызмы з'яўляюцца самастойнымі мініяцюрнымі творамі, калі не ўключаны ў аўтарскі кантэкст – у сказ, напрыклад: "Шчасця большага няма ў зярняці, як на ніве роднай прарастаці" (В. Таўлай). Калі афарызмы ўключаны ў аўтарскі кантэкст, то ён не становіцца афарыстычным, напрыклад: "Хоць, праўда, хлеб ядуць і з вуды, але не ўсе і не заўсюды" (Я. Колас – афарызм); "А што "жывуць на свеце людзі з вуды, але не ўсе і не заўсюды" нічога, браце пісьменнік, не зробіш... бываюць творчыя няўдачы" (Я. Брыль – кантэкст не афарыстычны). Літаратурная мова ўзбагачаецца не толькі самабытнымі афарызмамі, а і запазычанымі з іншых моў (выслоўі, крылатыя словы).

**Афарыстыка** – а) сукупнасць выслоўяў, афарызмаў пэўнага часу, народа, з фальклору альбо з літаратуры. Напрыклад, антычная афарыстыка, беларуская, вуснапаэтычная афарыстыка; б) галіна філалогіі, што вывучае афарызмы.

Беларускую афарыстыку развівалі Я. Чачот, П. Шпілеўскі, І. Насовіч, Е. Раманаў, П. Шэйн, М. Нікіфароўскі, М. Федароўскі, Я. Карскі, Ф. Янкоўскі і інш.

**Афіша (з франц.)** – від рэкламы, звестка пра пэўную (найчасцей мастацкую) падзею. Можа быць рознага спосабу (надрукаваная ці напісаная ад рукі, з ілюстрацыямі і без іх).

У Еўропе вядомая з XVI–XVIII стст., пачала найбольш выкарыстоўвацца ў XIX ст. пры ўзмацненні грамадскага і культурнага жыцця (асабліва ў Францыі).

На Беларусі вядомая з сярэдзіны XIX ст. Друкаваная афіша папярэднічала пастаноўцы першай беларускай оперы "Ідылія" С. Манюшкі (1852). Свае афішы мелі тэатральныя трупы І. Буйніцкага і У. Галубка. У наш час у галіне гэтага віду мастацтва працуе шмат прафесійных і самадзейных мастакоў, афарміцеляў.

**Афорт (з франц.)** – тэхнічная разнавіднасць гравюры на метале, дзе паглыбленыя элементы друкарскай формы ствараюцца шляхам траўлення металу кіслотамі. Гэтая тэхніка распаўсюдзілася ў Германіі ў XVI ст.

На Беларусі афорту папярэднічала развіццё медзярыту ў другой палове XVI – XVIII стст. (карты і планы, віды беларускіх гарадоў, партрэты, лубкі, геральдыка і інш.).

У XIX ст. афортам займаліся мастакі з мастацкай школы Віленскага універсітэта, у XX ст. гравіраванне зведала вялікі ўздым.

**Ахоўная зона** помніка гісторыі і культуры – плошча каля помніка, разлічаная на яго захаванне, выкарыстанне і экспазіцыі. Яна ўстанаўліваецца для асобнага помніка ці групы помнікаў, забяспечвае іх бачнасць, прадугледжвае наяўнасць пад'ездаў і падыходаў, відавых пляцовак, азелянення і добраўпарадкаванасць з улікам пажарнай і санітарна-гігіенічнай бяспекі.

Важнейшыя ахоўныя зоны на Беларусі – плошча Верхняга горада ў Мінску, Нясвіжскі палацава-замкавы комплекс, Заслаўская Спаса-Праабражэнская царква і інш.

**Ахоўская Крыжаўзвіжанская царква** – помнік драўлянага дойлідства XVIII ст. (1758) у в. Ахова Пінскага раёна. Будавалася як уніяцкая царква, з 1798 года – касцёл, з 1865 – праваслаўная царква. мае рысы стылю позняй готыкі і барока.

Пры перабудовах у архітэктуру храма ўносіліся змены.

**Ахрэмавіцкі парк "Бяльмонты"** – помнік садова-паркавага мастацтва з 2-й паловы XVIII – пачатку XIX ст. у в. Ахрэмаўцы Браслаўскага раёна на паўночна-ўсходнім беразе возера Дрывяты. Быў у складзе палацава-паркавага ансамбля (мураваны палац знішчаны ў 1914 годзе). Плошча – 65 га (без 300-метровай паласы лесу вакол парку). Размешчаны на двух раўнінных участках са значным перападам рэльефу паміж імі, быў афармлены вузкімі тэрасамі з сістэмай лесвіц (не захаваліся).

У парку растуць елка, хвоя веймутава, дуб, арэх чорны, лістоўніца сібірская, тапаля кандская, жоўтая акацыя, ліпа, бяроза, ясень, туя заходняя, глог калючы, піхта сібірская і інш.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by



Падпісана да друку: 15. 07. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330 ад 27. 02. 2004 г.)
Заказ 1074.
Тыраж 1100.